Серыя: Берасьцейскае вогнішча

У новым зборніку лаўрэата Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова вядомага берасьцейскага паэта Алеся Каско 45 вершаў апошняга часу. Гэта вершы-роздумы пра вечнае і мімалётнае, пра сутнасьць жыцьця і месца творчага чалавека ў ім.

ISBN 985-6275-07-5

**Рамяство**

Калі ў свой лёс бракуе веры,
няшмат і ў слове глыбіні.
Як часта
мы ўскладняем вершы,
каб не спрасьціць іх да гульні!

Ня ўсім адкрыецца прытворства,
ды самі — мусім разумець:
не для гульні
даў творцам Творца
выслоўліваць жыцьцё і сьмерць.

Ці не таму так адмыслова
радкі прасьвечвае сьляза
тады,
як простым, ясным словам
спрабуем сьвет пераказаць?

* * *

Шчэ іду, шчэ начую ў капе я,
ды на згадкі і тыя скупею;
ад былой маёй веры авечай —
халадэча адна ды сумнеча.
Што здавалася шчодрым і слынным,
прэч плыве павуціннаю плыньню.

Шчэ іду полем восеньскім, позьнім,
не сагрэты каханьнем апошнім,—
стан твой цёплы і юны завельмі
абвіваю ўюнцом-пустазельлем.
А ня хоча душа засмучацца:
шчасьце — шчасьцем, хаця і ня ў часе.

Шчэ іду, мяне дома чакаюць:
не ў акно, а ў зямлю пазіраюць.
Тын пахілы. Сланечнік зламаны.
Стома бацькава. Зболенасьць мамы.
Шчэ іду — безвыходнасьць людзкая
шчэ пранізвае, не абцякае...

* * *

Я выйшаў пакурыць. Ня шоргнуў і запалкам,
як у цямрэчы, весткаю далёкай буры,
маланка бліснула маркотна і няярка...
Што ж, адзінокі Бог, давай з табой пакурым.

* * *

Адзін з мячом, другі з пяром, з сякерай трэці
сядзяць, бы стоды, не падымуць цяжкіх рук —
з мяча, з пяра, з сякеры пыл густы абтрэсьці,
каб Цмока біць, складаць быліну, ставіць зруб.

Галовы буйныя схілілі ў думе скрушнай:
ёсьць меч, пяро, сякера, ёсьць малойцаў раць,
ды хто ўстаць мусіць першы, плечы разьвінуўшы,
што перш — сякеру, меч, пяро — для справы ўзьняць?

З мячом, з пяром, з сякераю сядзяць асілкі
і год, і два,— сьсівелі, мохам абрасьлі
і думку думаюць: з чые, з чые абмылкі
яны — як змылкі колісь волатнай зямлі?

* * *

Жахнуцца, крок ступіць ад цёмных вокнаў
і заглушыць вінам і стрэл, і крык.
Так гінеш ты. А той, хто глуха войкнуў,
у тысячаў людзей навідавоку
падняўся ў неба... Ты — яго даўжнік.
Даўжнік — няхай ты геній несусьветны,
хай — мараліст, якіх на сто адзін.
Той не паэт, хто ў краі запаветным,
які зрабіўся пеклам апраметным,
бярог сябе, пад кулі не хадзіў.

**Няхай бы**

Няхай бы вярбіна-вітальніца
так і пагойдвала гольле ля крайняе хаты,
даруючы і караючы дотыкам мякказялёным
за нячастасьць вяртаньняў маіх.

Няхай бы дарога, што вуліцай стала,
так і паблісквала золатцам жвіру,
не паддавалася ветру, сьпякоце, паводкам
ды ўправе дарожнай, якой даспадобы
чорны, жалобны асфальт.

Няхай бы вяскоўцы на лапіку груду
так і зьбіраліся кожным сухім адвячоркам,
стому прыносілі, водар жытнёвы і траўны
ды чуткі, што недзе за Шляхам Птушыным
(гэта прарочыў якісь Настр… ат, Бог з ім!)
ёсьць вечная маладосьць.

Няхай бы, як сёньня, у часе зьмяркальным,
так і пыліў, і туманіўся статак,
ціша зьвінела ад конікаў і, бы цыркулярка,
іскрылася сонца над выступам бору,
а маці мая, абярнуўшы на ўкроп палівачку,
шпарка, бяз кія-падпоркі, ішла да варотцаў
сынавы згадкі гукаць.

Няхай бы… Няхай бы ўсё так і было тут
і толькі старэў я адзін — і адзін я
рабіўся ўсё болей тужлівым, аднак жа
з бязьмежжа гадоў і нат з-за бязьмежжа —
атожылкам вербным, жвірынкай дарогі,
подыхам сьпелага хлеба, цяплінкаю сонца,
матчыным словам — хай ценем ад слова!—
вяртаўся, вяртаўся сюды.

## **З размовы анёлаў у небе над Беларусьсю**

“Ці то парода ў іх...
Ці то Прырода
ім не дае сысьці
з накрэсьленых кругоў?
То ў веры каюцца,
усім народам,
то выракаюцца,
усім народам, зноў.”

“Там шчэ натоўп.
Яшчэ няма народа.
А ёсьць ахвярнікі,
якія з году ў год,
каб быў ён,
ходзяць краем эшафота:
яшчэ адно яны,
адно яны — народ.”

**Капальшчыкі**

Да ісьціны капаюць — да вады —
капальшчыкі калодзежа вясковага.
Рака зьмялела, высахлі брады.
Тым болей поту. І нічога новага.

Адно бязводны храбусткі падзол
ды камяні выкідваюцца з яміны,
і мроіцца пустыня навакол:
сухмень, пясок і яшчарка на камені.

Рыдлёўкі гнуцца, рукі зацяклі,
і той, хто ўнізе, жаліцца: “Ня выйсьці мне
з-пад гэтай непадатлівай зямлі...”
Але зламаны дух пярэчыць ісьціне.

Блішчыць яна на цёмным стылым дне
жывою і спакусьліваю кропляю,
выжыльвацца ахвоціць — і тане,
зьнікае, чым глыбей яе раскопваюць.

У роспачы капальшчыкі — канец,
зьбіраюцца шукаць мясьціны іншае,
каб вырас тут, гарбаціўся капец,
як успамін і напамін аб ісьціне.

І першы камень падае сюды,
на дно, нібы цяжар безвыніковасьці,—
тады і выбіўся струмень вады,
якой так не хапала выпадковасьці.

* * *

Няпраўда, ня мы
ў маладосьці кідаем
свой куточак радзінны —
кідае нас ён.
Што яго выракаемся
мы —
нам толькі здаецца
ў самотнай гардыні.

Не-не, гэта ён
з нас паволі зьнікае:
штодня — па крупінцы,
па згадцы, па слоўку,
па церушыначцы ў хаце.

Не-не, гэта ён
ад нас аддаляецца:
усё болей пахілы
там плот, і ўсё меней
там глебы ўскапанай,
і гаснуць сьвітанкі
ў вачах у бацькоў.

Нарэшце там дрэвы
адны застаюцца —
затрымліваюцца,
каб гольлем счарнелым
(калі мы вяртаемся)
на нас паказаць,
на нашу
нікчэмную гордасьць.

**Напярэдадні**
**рэферэндуму 15 мая 1995 года**

Вось — гвалтоўны гісторыі ход:
пагарджаны вякамі народ,
што душою аглух і асьлеп,
плюне ў мову, і ў сьцяг свой, і ў герб.

І тады, як адвернецца сьвет,
не апомніцеся, прэзідэнт?
— Нет.

Набрыняе крывёй каляндар,
кіне Бога сумленны сьвятар.
Роспач вусны прароку замкне,
вучні ўтопяць жалобу ў віне.

І тады, як сьмерць прыме паэт,
не пакаецеся, прэзідэнт?
— Нет.

Шчэ ёсьць вера ў інакшы зыход:
да глумленьня ня дойдзе народ
са сьвятыняў сваіх, напаказ...

І тады, калі грымне адказ,
што ня гнюс ён і не самаед,—
не застрэліцеся, прэзідэнт?
— Нет.

**Перад абуджэньнем**

Хутка, дзіця, ужо ранак,
ты патанеш у сінечы.
Гэта ня мой абяцанак,
гэта твой сьвет чалавечы.

Займецца залатаносна
ясны распылены промень.
Недзе высока-высозна
промень той птушка пяройме.

Добраю весткаю птушка
спусьціцца на падворак
і праплыве над падушкай,
цішу адгоніць і морак.

Збудзішся ў сонечных гуках,
вымавіш першыя словы.
Дрэвы дадуць табе рукі,
схіляць анёлы галовы...

Як патухалі над домам
зоркі, як курчыўся ветах,
як забірала бяздоннасьць,—
буду адзін толькі ведаць.

З ночы бяссоннае выйду,
стомлены поблізу стану,
скрушнае тайны ня выдам
і павінюся за тайну.

**Садоўнік**

Садзіць і садзіць
каралеўскі садоўнік
чырвона-крывавыя кветкі
на жытнёвай зямлі,
на зялёных лугах.

Сыціцца барваю неба
і па кроплі сьцякае
на валошкі блакітныя,
на белыя росы,
на сьляды босых ног.

Не зважае садоўнік,
што барва атрутная
ўжо й на палотнах адбеленых
і няма яму чым
сьцерці з рук сваіх кроў.

* * *

Хлебам-сырам варону кармлю,
ёй кідаю то крошку, то скрылік
на сухую, бы хлеб мой, зямлю,
на птушыныя чорныя крыльлі.

Спадабляе мой корм і прыгляд,
прыручу, як ня будзе дурная,—
хай пад вокны мае, у мой сад
аж да самай вясны прылятае.

Чорны сад мой — такая ж яна,
вось і ходзіць па ім, быццам пані,
ёй сяброўак гурма не чутна,
што над могілкамі гарлапаніць.

Тут зацішна, ніякай бяды,
добра ўсё ж напаткаўшай апеку:
што з таго, што ўчарнелі сады,
што тужліва над ёй чалавеку?

Усё роўна, якая пара
і ў прыродзе, і ў зболеным сэрцы,
і з чыім цераз прорву двара
позірк мой гэтак прагне сустрэцца.

Добра ёй, што бяз сьцюжы зіма,
што жыцьцё маё — скокам ды бокам,
што са мною галубкі няма
і што мне, як і ёй, адзінока.

* * *

*Ул. Някляеву*

Напэўна б, і шакал хацеў
таго трывалага спакою,
з якім паважнаю хадою
паўз іх, шакалаў, ходзіць леў.

Вось ён прылёг, вось — паляцеў
за буйвалавай чарадою
і за вярсту ад вадапою
самца ў двубоі адалеў.

Насыціўся, заснуў; тым часам
паўзуць шакалы рэштай мяса
свой вечны голад наталіць.

Загінуць мог — дык пажывіцца
кім зноў было б… Аднак ён сьпіць,
схіліўшы грыву над ільвіцай.

* * *

*Вінцэсю Вашэку*

Сьнег пералётны, пыл і сьмецьце.
Ані вясны, ані зімы.
Шал ветру гэткі, што здаецца:
папеપакульвае дамы.

Мігціць, ледзь тлее дух ліхтарны.
Бязьлюдна ў вуліцах, адно
бушуюць дрэвы ды з кавярні
габоя ўсхліпваньне чутно.

Ні спаць, ні думаць... Усё роўна,
хто ў дзьверы грукне: акурат
прымаць гасьцей — будзь там вандроўнік,
п’янтос ці з брытваю вар’ят.

**Майстэрня**

Гарышча.
Трубы ацяпленьня
і рэшаты вентыляцыі.
Скрып ліфта —
бы з падзямельля
водгульле цывілізацыі.
Павуцінка восені —
сейсмографам землятруса.
Жалезьзе,
цьмяныя ўзоры посьцілкі
дахрыстовага беларуса.
Пад адрэўленым рупна,
сьлізкім карнізам
ручнік — да падлогі,
аблупленай
да звышмадэрнізму.
Ссохлыя цюбікі плюшчацца.
З калісьці белае
паперы —
бляклыя вочы натуршчыцы,
натурліва зьбеглае
ў зіхоткасьць інтэргатэлю,
у тлум рэстаранны —
з канапы, падпёртай гантэляй,
з мыйні бяз ванны.
Ня здраджваюць:
пудзіла коршака
ды ломкая зёлка,
вобла са зрэнкай-гарошынкай
ды каляндар з кіназоркай.
І сярод гэтага ачапленьня
выказьнік нацыі,
грэючыся ля труб ацяпленьня,
стынучы ад вентыляцыі,
малюе набытым за пеньсію
пэндзлем рухавым

палатно вышыні еўрапейскае
на гарышчы дзяржавы.

**Моглiцы**

Ці мала тут
маіх сяброў паснула.
Стаю адзін,
зусім не абаронены.
— Ку-ку…
Ты пагадай жа мне, зязюля!
Ды: — Ка-а-р!
Ды: — Ка-а-р) —
заплакала варона.

**Адпяваньне**

*Волечцы на даросласьць*

Стаяла дзяўчынка ў храме
між чорнага ў ясным, белым
пад Янам сьвятым у раме,
над дзедам сваім зьнямелым.

Тры пальцы ў пучок зьбірала,
вучылася, як трымаць іх,—
жалобнікам патурала:
то бабцы ў сьлязах, то маці…

Усім — і айцу сьвятому,
і цётцы, што сьвечкі ўнесла,
і гэтаму — маладому —
з высокай, пад купал, песьняй.

Хрысьцілася, як умела,
за дзеда, за ўсіх наўкола
маленькаю ручкай белай
і чыстаю, бы ў анёла.

А ў левай трымала сьнежны
агарачак парафінны —
і кожны тут быў бязгрэшны,
і кожны тут быў бязьвінны.

Губамі ў адзіны подых
вышэптваліся імёны,
каб духам анёльскім продак
быў тысячна блаславёны.

І еднасьць людзей мацнела
ў тым духу…
Як выйшлі з храма,
спакой, нерухомасьць цела
здаваліся меншай драмай.

Ясьнела ў нябёсах весьніх,
і кожны мог заручыцца:
памерламу — уваскрэснуць,
няжыўшаму — нарадзіцца.

* * *

Блізкасьць позьняе вясны
з раньняй восеньню; густыя
заплываюць туманы
ў надвячоркі залатыя.

Клейкі тапаліны пух
кружыцца, як павуцінкі,
і ніцуюць пульхны луг
перасохлыя травінкі.

Вось і першы ліст апаў
з пацяжэлай зеляніны,
над балотцам — прэлы пах,
хмаркі — крыльлем жураўліным.

І стаіць такая ціш.
што вярэдзішся пытаньнем:
а ці ёсьць жыцьцё паміж
росквітам і адцьвітаньнем?

**Старац**

Сярод пусткі, дзе хам расхрыстаў Божы храм,
дзе сады і сядзібы бы вецер зьлізаў,
дзе ў мільён бізуноў дождж лупіў,— гэтак там,
адзінокі, як поле, ён полю сказаў:

— Эх, пайшло ўсё так-сяк ды наперакасяк,
ліра з кайстрай — сума, з мірам хата — турма,
у старонцы бедлам, на душы кавардак.
і ў прыродзе адвечнай парадку няма.

І сказаў ён: — Мо там, дзе канчаецца сьвет,
дзе пачне яго зноўку прапрашчур Адам,
будзе мужным народ, стане вольным паэт
і пяяць наўзахлёб салаўіным садам.

Гэтак полю сказаў, дзе і храм быў, і сад,
і пачулі яго, і трымалі адказ:
— Памаліся за нас і вяртайся назад,
уваскрэснуць радзіме пакуль што ня час.

Замаркоціўся старац: — Куды ж я пайду?
Я цяпер і магілы сваёй не знайду.

**Пераменнасьць**

Даўно я не ўзіраўся ў ноч,
шчасьлівы быў — ня бачыў ночы.
Яна прыйшла, глядзіць па-воўчы,
прылегла блізка каля ног.

Нібыта хтосьці ноч прывёў,
пакінуў мне,— ён гэткі самы,
які быў я; мы палюсамі
перамяніліся бяз слоў.

Цяпер узьлёт — яму, мне — спад,
ён па-над зоркаваю гушчай
ляціць асьлепла, невідушча —
застаўся мне яго пагляд.

Усё, што ўчора не было
відно з высокага палёту,
адкрылася — маю самоту
бязьмежжа цемры працяло.

Сьвятла шукаю ў чарнаце,
якая хіжа іклы шчэрыць.
Баюся, гладжу ноч, бы зьвера:
шарсьцінкі страху на руцэ.

Свой час я мушу прычакаць…
Ну, а пакуль што вочы ў вочы
стаю насупраць чорнай ночы,
як зьвер, гатовай да скачка.

* * *

Чорны вір і жоўты месяц
адбяруць і зрок, і слых,
памяць і трывогу ўмесьцяць,
даўні час і гэты міг.

І калі ўзірацца ў вочы
змрочнай бездані рачной,
вір счаруе і сурочыць
неабачлівы спакой.

З берага хіснуцца травы,
лопнуць вербаў карані…
Спыніш голасам ласкавым,
агукнуўшы з цішыні.

Мне, працятаму сурокам,
скажа позірк твой: жыві.
Ды мільгне і ў ім, глыбокім,
жоўты месяц, чорны вір.

## Двубой

Сышліся блізка, штык у штык,
ды сталі сталь не пракалола.
Вінтоўкі прэч. Скрозь немы крык
я ворага ўхапіў за горла.

А вораг — маладзенькі хлюст —
хрыпеў з натугай пад рукамі,
і я адчуў пад імі хруст
між шыяю і пазванкамі.

І пальцы расшчапіў. Стаяў
увесь у дрыжыках, спацелы,—
як вораг раптам акрыяў,
упарта выпраставшы цела.

Зноў рушыў на мяне — і зноў
замкнуліся на горле пальцы,
пакуль ня выпырснула кроў,
пакуль ня стаў і сам баяцца.

Адкінуў цела і пабег,
ня вытрываў — і азірнуўся:
той хлюст, нязломны ў барацьбе,
рукамі да мяне цягнуўся…

Гады крыві — як невады,
ня вызваліцца нашым душам.
Сьню бой. Як ён. І як тады,
адзін другога душым.
Душым.

**Балада зорак**

*Васілю Сахарчуку*

Палову жыцьця паміж велічных зорак
блукаў я,
забыўшыся ўзяць позірк маці,—
ён зьнізу сьвяціўся тужлівым дакорам,
ды ў зорках
ня рупіўся адлюстравацца.
Ня ўзяў і пагляду бабулі з сабою,
сівой і нямоглай, амаль невідушчай,
што ўсьлед пазірала сваёй злыбядою,—
згубіўся пагляд яе
ў зоркавай гушчы.
Пакінуў каханае вобраз маўклівы,
журлівы і роздумны, бы адвячорак,
а згадваў адно ў ім
сьвятла пералівы
і ўцеху — умею сягаць аж да зорак.
І вочак дачкі, вечна весьняй сінічкі,
ня ўзяў я, усклаўшы надзею на Бога,
хоць бачыў,
што бляклі, бы сінія зьнічкі;
пабляклі — выходзіць — з маёй запамогай…
Нарэшце спусьціўся на родны падворак
і стаў ля пахілае чорнае студні,
дзе сотняю,
тысяччу,
безьліччу зорак
лятункі мае астывалі і тухлі.
Нічыйная хата была, і нічыйны
быў сам…
Плакаў скрушна і горка…
А блізка ўздымаліся ў неба жанчыны —
чатыры ўваскрэслыя сьціплыя зоркі.

* * *

За некалькі крокаў спыніліся мы:
далей — ні парома, ні моста, ні лодкі.
І шлях твой — зваротны, і час мой — кароткі,
і з дальняга берага — подых зімы.

І слова няма, каб расстаньне сагрэць,
згубілася слова ў аціхлым мінулым
маім — а тваё яшчэ поўніцца гулам...
— Бяжы! У юнацтва ты можаш пасьпець.

Марудзіш. На хвалі, што бы са сьвінца,
глядзіш і не ў сіле ад іх адарвацца:
— Мне рана — з табою, ды позна вяртацца,
няхай гэтай хвілі ня будзе канца!

Удзячны да скрухі за сьветлы наіў:
яшчэ ты ня ўмееш загадваць наперад —
ня бачыш, што ўжо мой наблізіўся бераг,
што я размаўляю з табою на ім...

* * *

Зноў я дома, дома, дома.
І паўзмрок, і цішыня.
І матуля, як мадонна,
ля глыбокага акна.

Кола месяца за ёю,
задуменнай, маладой,
залаціцца чысьцінёю,
быццам німб над галавой.

Цень кідаюць дрэваў шаты,
ды з таго яшчэ відней:
за сьцяною гэтай хаты
мне ні трошкі не вальней.

Што за воля ў паднявольлі
грэшных дум і сумятні
біцца, бы вятрыска ў гольлі,
абрываць, як лісьце, дні?

Адно б доля захацела!
Хату загадзя прашу,
каб адвеялі ад цела
толькі тут маю душу.

Толькі тут ёй будзе добра,
дзе паўзмрок і цішыня,
дзе матуля, як мадонна,
будзе вечна ля акна.

* * *

Згубіцца ў жытах ціхмяных,
упасьці на расколіну поля,
злучыўшы дзьве часткі Зямлі,
і скрозь павекі калосься
ўзірацца ў далёкае неба;
шызым вугольчыкам жаўранка,
крэйдаю самалёта
пісаць на блакітнай прасторы
высокія вершы,—
болей за трыццаць гадоў
зьбіраюся гэта зрабіць,
як неаднойчы рабіў у дзяцінстве;
ды жыта пажатае — пожня,
ды каласы ў абмалоце — мякіна,
самалёт і жаўрук праляцелі,
аблокі сьцямнелі, упалі дажджом;
засталася толькі расколіна,
дый тая — закамянелая.

* * *

Ноч трымцела і блішчала
ўсё ярчэй, сьвятлісьцей.
Гэта лісьце падаць стала,
высьпелае лісьце.

Быццам шолах лёгкіх крылаў
плыў асеньнім скверам.
Гэта лісьце гаманіла,
гэта лісьце з ветрам.

Чуйны водгук, ясны водсьвет
колішняга шчасьця
веставалі: наша восень
не прыйшла заўчасна.

І зьнікаў, зьлятаў са скроні
халадок іглісты,
і зьбліжаліся далоні
скрозь цяплінкі лісьця.

І гарэла з жалем радасьць,
з жарсьцю — вінаватасьць.
Час начнога лістападу
быў і грэх, і сьвятасьць.

Ты ўсё потым апраўдала
найпрасьцейшай з ісьцін:
гэта лісьце ападала,
гэта проста лісьце...

* * *

Пакідаю віры начныя,
аблокі бязважкіх дзён,
зьвіх уласнай душы
і самоту дваіх.
Пакідаю той бок люстэрка.
Ці знайдуся ў сабе —
у ранейшай будзённасьці,
у звыклай рабоце?
У вершах якіхсьці маіх?..
Гэтак доўга адсутнічаў,
што ўжо і забыўся,
якім быў, кім я слыў
і ці быў я наогул.
У люстэрка гляджуся — там
няма адлюстраваньня.

* * *

Сьняжыцца прыцемак. Са мной нікога.
Улёгся, змоўк пустапарожні брэх.
Схавалася за край платоў дарога,
уткнуліся ў сумёты шапкі стрэх.

Няма ні сьледу да твайго парога:
замецены, нібы апошні грэх.
Ні дня наступнага, ні для былога.
Няпэўны прыцемак. Ніякі сьнег.

**Балада граху**

Ля залатога парога
яна, мне аддаўшы яблык,
спакойна пайшла да Бога,
а я скіраваў да д’ябла.

І д’ябал за мой учынак
з кагорты сваіх наложніц
найлепшую даў жанчыну
і самы мякчэйшы ложак.

Юрлівасьць начнога балю,
задуха сьлязы і поту
душу маю выбаўлялі
ад роспачы і самоты.

Я думаў — яны ўратуюць
ці зьнішчаць, але памалу
забудуся я на тую,
што яблыка не спазнала.

Ды раніцай зноў узьнікла:
балюча падцяўшы вусны,
сьвятое дзіцё, цнатліўка
стаяла сярод распусьніц.

У зрэнках — ні шклінкі лёду,
пагарды ані на твары.
“Твая,— д’ябал мне.— Валодай”.
А я не прыняў ахвяры.

Зьбягаў ад брыды і блуду
і скрушна крычаў я: “Годзе!..”
Дый сёньня яна паўсюды
за мною, як помста, ходзіць.

* * *

Здавалася: ну, вось ён. Храм,
што збудавалі пакаленьні!
Стаў на парог — а ў храме Хам
сагнуў калені не ў маленьні.

Сядзіць і гнюсіць на алтар
ахвяр, што мерлі за свабоду.
Ён — валадар, ён — гаспадар
свайго прыходу і смуроду.

А людзі тупа на брыду
ўтаропіліся, бы авечкі...
...Я нізавошта не ўвайду,
не запалю ў тым храме сьвечкі.

**Чалавек-калодзеж**

Кіне на самае дно
жменьку зьнічак
ці ранішніх промняў —
зазьвіняць і замоўкнуць,
нячутныя для душы.
Ні згадак маленства,
ні рэха былога каханьня
яны не абудзяць;
боль ад стратаў і той
адгукнуцца ня зможа
ў перасохлым ад сьпёкі,
перамёрзлым ад сьцюжаў
калодзежы.
Ходзіць па вуліцах
сухі і халодны —
з яго анікому ўжо
смагі не наталіць.
Мо за домам вунь тым
ён рассыплецца друзам,
і рупліва яго расшуфлююць
і вывезуць сьмецяры…
Ён гэтага хоча:
раптам нехта цікаўны,
малады, неабачлівы
зазірнуць заманецца
ды скінецца ўніз;
ці з жахам адчуе,
што робіцца й сам
парожнім калодзежам.

**Без адказу**

*Ахвярам рэпрэсій*

1

Хтось прылятае на мокрых вятрах
і апускаецца ўпотай на дах,
зьвешвае космы з карніза да шкла,
моўчкі глядзіць, покуль ноч не прайшла.

Гэтак ён доўга ўзіраецца ў мой
зыбкі ад дыму бяссонны пакой,
што ад залежаных ног “мурашы”
ў боль пераходзяць датклівай душы.

Смокча па кроплі з таго пачуцьця,
што скаланацца змушала дзіця,
скочвацца долу, сьпяшацца пад схоў
ціхіх, загадкавых бацькавых слоў:

“Сыне мой, гэта запозьнены птах
сеў адпачыць на абветраны дах,
ты не трывожся ў ягоны прылёт,—
гэтак ён восень прыносіць штогод…”

Недзе ў маленстве застаўся той птах.
Скуль жа ў пакой зноў панадзіўся страх?
Што ж не дае мне запальваць сьвятло,
хто там відзён скрозь сьвінцовае шкло?

2

Асатанела бяссоньне — і зноў
згадкі блукаюць у цемры гадоў
мройных, глыбокіх — бяз межаў і дна:
восень і ноч, ноч і восень адна.

Сьцішна цягнуўся тады лістапад,
бацька забраны вярнуўся назад,
ды з той пары ледзь ня кожнай начы
нехта за ім, нібы воран, сачыў.

Позірк мо той жа ў асеньнім акне,
чорны і стылы, згідчэлы і мне?
Дзе ўжо канец? Сьпіць мой сын за сьцяной.
Божа, ня дай яму ночы такой!

Гэта ня мройліва-казачны птах
сеў у чаканьні панура на дах;
гора, як зноўку пачне свой аблёт,—
па чалавеку зьнікацьме народ…

Знаю, жытло не адзіна маё
ніжа сьляпое яго вастрыё,
звыклыя страты ў маёй старане:
бацька вярнуўся, а тысячы — не.

Цьмяныя бліскаўкі ў пройме двара:
лісьце ці сьвечкі ў жалобе гараць?
З полымем гневу бягу да акна —
і адхіляе свой твар Сатана.

3
Ясьніцца досьвітак; быццам наноў,
бачу стамлёныя вокны дамоў,
тухнуць агні, а на зрэнках са шкла
ўспыхваюць кроплі жывога сьвятла.

Сьвецяцца мокрыя космы гальля,
дыхае сьвежа пад імі зямля,
плыць пачынае людзкая рака,
і — ані ворана, ні “варанка”.

Спехам выходжу ў прасьветлены дзень,
пільна ўзіраюся ў твары людзей:
а ці зракліся ж пакоры яны,
страху і ганьбы — зьнікаць без віны?..

...Ноч. Нерухомы пагляд Сатаны.

* * *

Церпкі прыцемак, трымценьне
чашы скрушнае, а ў ёй
ледзь улоўны, плыўкі цень мой
ды мінулае маё.

Ды — з завеі, з кругабегу
заблукаўшыя ў акно —
камячкі сівога сьнегу
апускаюцца на дно.

Набрыняе, перабродзіць
разам з імі мой настрой,
і зьмяркальны дзень народзін
памяну журбой густой.

Прыгублю — павее домам,
над якім нябёсаў сінь
абяцала хоць на момант,
хоць на хвілю ўваскрасіць.

Зараз кволіцца ў спагадзе
і зьнікае, не ўтрымаць,
просіньню апошняй радзіць
мне і памяць зьнебываць.

З новага адліку часу
рэдка будзе сінь відна:
сьнег запоўніць гэту чашу,
выпітую мной да дна.

**Адзін**

Недакурак на двор шпурне,
бы здагадку аб несустрэчы.
Цішыні паківае ў сьне
цяжкі маятнік па-старэчы.

Абцярушыць пылінкі столь,
у заварніку булькне кіпень.
Сьцень кута — чорны кот — на стол
скокне раптам і драпне кіпцем.

Ён прачнецца, зьдзьмухне сьвятло,
захінецца ў хусьціну змроку,
як няма яго й не было,
аднаго з усіх адзінокіх.

* * *

Такія коцяцца дажджы,
бы восень выплакацца мусіць
па ўсіх, каму ня лёс дажыць
да весьніх дзён на Беларусі.

Хай кажуць, што ў чужых краях
ёсьць больш дажджыстыя сезоны,
няшмат уцехі, знаю я:
няма там страху мёртвай зоны.

Няма там гэтулькі дратоў,
што аплялі ў бязьлюддзі хаты,
і гэтулькі людзкіх сьлядоў,
што змыў сьвінец у Курапаты.

Зацятыя дажджы ў нас тут.
Калі ўжо льюць, і б'юць, і косяць,
дык так, што ступіш — і насту-
піш ці на гільзы, ці на косьці.

Не, тут зусім не міражы
і цень ахвяры, і забойцы,—
тут сьпеюць кулі між дажджын,
яшчэ нябачныя, як стронцый.

**Ускраіна**

Вулкі былі тут нядаўна. Цяпер
плітаў квадраты да хлуд непрыбраны,
ды па-над цэглай пад’ёмныя краны…
Вёсачку горад глынуў, нібы зьвер.

Сьціснуты страхам масіўных платоў
купка хацінак, шматок зеляніны.
Дрэвы расставілі рукі-галіны
і адпусьцілі ў нябёсы буслоў.

Зьбег у лагчыну дрыготкі вішняк,
вымкнула ў поле сьцяжынка-палоска..
Горад плюецца і харкае вёскай,
не адплюецца, пачвара, ніяк.

* * *

У “мех каменны” Слова пасадзіць…
Мо годзе ўжо вылузвацца са скуры?
Зьняволіць — азначае працадзіць
яго праз час і капіляры муру.

Яно свой шлях умее церабіць
і, чыстае зусім ад кан’юнктуры,
раней-пазьней, ды так пасьля зіхціць,
што паліць зекры служкам дыктатуры!

**Гатэль**

Быт мой зноў неўладкаваны.
Шумная хада.
З крана ў дно чугуннай ванны
стукае вада.

Ты ня дома, дык ня войкні.
Волка. Ні рубля…
Хоць вазьмі зірні за вокны:
тут чыя зямля?

Памылілася дзьвярыма
вольнае дзяўчо:
— Вы ня з Крыма?
— І ня з Рыма,
захіні плячо.

Па-варшаўску ў калідоры
ёй гукаюць:
— Ходзь!
Гул гандлёвае канторы
ў люксе насупроць.

Захаці — даставіць рынак
імпарт і ў пасьцель…
Побач — інтэрвечарына:
госьці ўсіх масьцей.

Там частуюць рускай горкай,
п’юць грузінскі чай.
Во, і родная гаворка:
— Дзядзька, не чапай!

Не заснуць… З аконнай рамы
выпукла, як флюс,
б’е неонавай рэкламай
назва “Беларусь”.

* * *

Маўчаньня час — глыбокага, як вечар,
час роздуму — журботнага, як восень,
пра шлях нядоўгі ў веку чалавечым,
які прайсьці лёс болей не запросіць.

Час паяднаньня з несамотным Богам
і цішай траў, што з мудрасьцю заручаць.
З жыцьцём — жыцьцё, з эпохаю — эпоха:
складаецца з імгненьняў неўміручасьць.

Заходзіць сонца, і на далягядзе
злучаецца зыход з пачаткам шляху.
Так проста адкрываецца суладдзе,
калі сарваць з вачэй павязку страху.

* * *

Пасьміхнуся: ці ж я мёртвы?..
І ўваскрэснуць вёска, дом,
і падымуцца сумёты
над асфальтам, над ільдом.

У густым бухматым садзе,
толькі думкаю зляві,
сьнегірок на гольле сядзе,
гарачэйшы ад крыві.

Сьнег акрые позьні шчэбет,
ахіне — а да вясны
будуць струнка граць прышчэпы
пад паветрам галасным.

Сьвет паўстане сьветлым, чыстым,
блізкім... Цераз сорак зім
я паранюся дзяцінствам,
загаюся зноў жа ім.

І падумаецца ўпотай,
што мне жыць яшчэ ды жыць,
хоць і сум блісьне ў сумётах,
хоць сьляза і набяжыць.

* * *

Гэта пэўна, гэтаісна:
сьвет ня згіне, век міне;
гэтым далям, гэтым высям
існаваць пасьля мяне.

Гэта дробязь, гэта проста —
гэта выпадзе адна
кропля з мора, кропля з росаў,
кропля з горкага віна.

Гэта дзіўна, гэта сумна:
ноч за днём, за ноччу дзень
паплывуць далей бясшумна
без мяне — ні ў чым, нідзе.

Гэта час мой, гэта рата
і ніякай навіны;
што прыйшоў — не вінаваты,
што пайду — няма віны.

Гэта трэба, гэта сьніцца:
вы адчулі — не стае
хоць часьцінкі, хоць драбніцы,
хоць крывіначкі мае.

Гэта досыць, гэта выйсьце:
скрозь смугу ці скрозь імжу
ў гэтых далях, гэтых высях
ляжа ўцеха на душу.

## Зьмест

Каско Алесь

45. Вершы.— Брэст: Рэдакцыя газеты “Шлях”, 1996.— 48 с. Серыя: Берасьцейскае вогнішча.

ISBN 985-6275-07-5

У новым зборніку лаўрэата Літаратурнай прэміі імя А.Куляшова вядомага берасьцейскага паэта Алеся Каско 45 вершаў апошняга часу. Гэта вершы-роздумы пра вечнае і мімалётнае, пра сутнасьць жыцьця і месца творчага чалавека ў ім.

Літаратурна-мастацкае выданьне
Алесь КАСКО
45
Вершы
Выдавец Уладзімір Базан
Рэдактар Яна Нёманская
Тэхнічны рэдактар Ігар Бараноўскі

Здадзена ў набор 10.12 1996. Падпісана да друку 15.12 1996 г Фармат 70х90/” Папера афсетная 80 г/м·. Гарнітура Times. Афсетны друк Ум друк арк 1,75. Ул выд арк. 1,72. Наклад 450 асобнікаў Кошт свабодны Выдавецтва рэдакцыі газеты “Шлях”, ЛВ № 1175. 224005 г Брэст, вул.К Маркса, 7 Друк: СП “Арбор”, 220113 г.Мінск, вул. Мележа, 3.